ПУЛЬС

## "Народная воля" на канцэрце Раінчыка

**Нечаканым быў эфект ад апошняга канцэрта Васіля Раінчыка, што днямі адбыўся ў Рэчыцы (Гомельская вобласць). Негалосна канцэртны тур Раінчыка скіраваны на падтрымку А.Лукашэнкі на выбарах. І таму трапіць на гэтыя канцэрты магчыма толькі па спецыяльных запрашэннях, размеркаванне якіх адбываецца звычайна ў гарвыканкамах.**

З'яўленне ў зале спецыяльных выпускаў "Народнай волі" і "Беларускай Маладзёжнай" выклікалі шок у адміністрацыі і прысутных там кіраўнікоў горада. Прадстаўнікі моладзі АГП і Маладога фронту здабылі запрашэнні і прыйшлі на канцэрт у чорных майках з надпісам "Выбірай!". Маладыя людзі знаходзіліся ў зале літаральна дзве хвіліны, і за гэты час амаль 400 нумароў газет, на якіх было напісана: "Прачытай і перадай іншаму", разышліся па руках. Нават прысутная там міліцыя не здолела зразумець, адкуль яны ўзяліся.

**Мікола БУСЕЛ.**

## Кангрэс дэмакратычных сіл адбудзецца ў Мінску 18 жніўня

**У Мінску адбылося пасяджэнне аргкамітэта Кангрэса дэмакратычных сіл. Ужо канчаткова вызначана, што ён пройдзе 18 жніўня ў Палацы культуры "Сукно" з 9 да 15 гадзін. Усе неабходныя дазволы арганізатарамі атрыманы.**

На кангрэс запрошаны: адзіны кандыдат у прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзімір Ганчарык і кандыдат у прэзідэнты Сямён Домаш. Яны выступяць з вялікімі дакладамі, кожны з якіх зойме не менш як гадзіну часу. Плануецца выступленне лідэраў дэмакратычных партый Беларусі. Фактычна ўсе партыі, якія ўваходзяць у Каардынацыйную раду дэмакратычных сіл (КРДС), а таксама грамадскія арганізацыі, прафсаюзы возьмуць удзел у працы кангрэса. Адмовілася прыняць удзел у ім толькі Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) пад кіраўніцтвам Мікалая Статкевіча, аднак у форуме будзе ўдзельнічаць фракцыя "За адзінства" гэтай партыі.

## "Час убіраць!" у Магілёве

**У Магілёве адбылося несанкцыянаванае шэсце пад лозунгам "Час убіраць!". Перад пачаткам акцыі ў горадзе былі раскіданы тысячы аркушаў паперы з карыкатурнай выявай цяперашняга кіраўніка Беларусі і зваротам: "Падыміце гэтую паперу і выкіньце ў сметнік. Час убіраць!".**

Каля сотні маладых людзей у майках з наклеенымі ўлёткамі "Час убіраць!" прайшлі ад цэнтра горада да Задняпроўскага рынку. Яны скандзіравалі: "Колькі можна нам маўчаць — прыйшоў час убіраць!", "Жыве Беларусь!" і іншыя лозунгі. Непадалёк ад рынку над калонай быў разгорнуты бел-чырвона-белы сцяг. Дайшоўшы да рынку, маладыя людзі знялі з адзення ўлеткі, згарнулі сцяг і зніклі ў натоўпе. Міліцыя адрэагавала на акцыю са спазненнем. Да рынку прыехалі каля дзесяці аўтамашын з міліцыяй, аднак ніхто з удзельнікаў акцыі затрыманы не быў. Арганізацыя шэсця была падрыхтавана без залішняй галоснасці і таму аказалася нечаканай для ўлад. Падрыхтаваў і правёў акцыю "Час убіраць!" маладзёжны рух "Зубр". У шэсці ўзялі ўдзел таксама актывісты "Маладога фронту".

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Выстава рэпрадукцый карцін Шры Чынмоя

**У Мінску, у памяшканні Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі, адкрылася выстава рэпрадукцый карцін вядомага міратворцы Шры Чынмоя "Джарна-Кала" (у перакладзе з мовы бенгалі гэта азначае "Фантаны мастацтва").**

Шры Чынмой з'яўляецца ініцыятарам многіх міратворчых акцый, самыя вядомыя з якіх — "Бег міру", "Сем хвілін дзеля міру ва ўсім свеце".

"Джарна-Кала" ёсць абсалютна новы жанр жывапісу — інтуітыўнае, самаадвольнае ўзаемадзеянне святла, колеру і рытмаў. Гэты стыль адносіцца да хуткага, спантаннага стварэння многіх карцін, у той час як мастак знаходзіцца ў стане глыбокага засяроджання.

Ствараючы свае карціны і малюнкі, Шры Чынмой развіў свой уласны унікальны стыль. У пошуках разнастайнасці ў тэкстуры і формах мастак распрацаваў набор інструментаў для малявання, які ўключае губкі, розныя па форме. Ён выкарыстоўвае таксама ручкі, пэндзлі ўсіх памераў, а калі-нікалі і адбіткі пальцаў.

Выстава працягнецца да 15 верасня. Усе яе наведвальнікі змогуць адчуць сябе мастакамі і намаляваць свае карціны. Для гэтага ў памяшканні выставы стаяць спецыяльныя сталы, акрылавыя фарбы, пэндзлі і іншыя прылады.

**Маша ПЯТРОВА.**

## Маскоўская міжнародная кніжная выстава-кірмаш

**Больш як 40 беларускіх выдавецтваў возьмуць удзел у Маскоўскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы, якая адбудзецца з 6 па 9 верасня.**

Разам з аддзяленнямі кнігагандлёвага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Белкніга" ў кірмашы возьмуць удзел і прадстаўнікі прыватнага кніжнага гандлю. Плануецца заключэнне кантрактаў на набыццё і выданне ў Беларусі кніг, якія прадставяць у Маскве замежныя выдавецтвы.

## 2 верасня ў Мсціславе — Дзень беларускага пісьменства

**Традыцыйная экспедыцыя "Дарога да святыняў" распачнецца 29 жніўня і пройдзе па Мінскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцях. З удзельнікамі экспедыцыі, якая праводзіцца па блаславенні мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, будзе знаходзіцца нязгасная лампада з жыватворным агнём ад труны Госпада.**

2 верасня экспедыцыя завершыцца ў Мсціславе літургіяй і хрэсным ходам у саборы святога князя Аляксандра Неўскага. У праграме свята — мастацка-гістарычнае прадстаўленне "Ад нашых дзён да часоў першаасветнікаў", цырымонія адкрыцця помніка беларускаму і расійскаму першадрукару, граверу Пятру Мсціславе, які разам з Іванам Фёдаравым адкрыў першую друкарню ў Маскве (1564), а ў сярэдзіне 70-х гадоў XVI стагоддзя — у Вільні. Адбудуцца сустрэчы з беларускімі і замежнымі літаратарамі. У рамках свята пройдзе фестываль беларускай кнігі і прэсы. У праграме таксама гала-канцэрт майстроў мастацтваў, музычны спектакль аб жыцці нябеснай заступніцы Беларусі Еўфрасінні Полацкай "Спакуса" і святочны феервек. Сцэнарый свята напісаны старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольгай Іпатавай.

**Марат ГАРАВЫ.**



ОТКРОВЕННЫЙ РАЗГОВОР

# КАЖДЫЙ ПЛАТИТ ПО СВОИМ СЧЕТАМ

## С Семеном Букчиным беседует корреспондент "Народной воли"



**— Семен Владимирович, знаю, у Вас завтра круглая дата — 60 лет. Честно говоря, даже не верится, что Вы уже подобрались к этому рубежу. Для читателей и для нас, журналистов "Народной воли", Вы всегда казались более молодым. Скажите, ощущаете возраст?**

— Ощущаю. И не только как количество лет. Гораздо сильнее давит груз неисполнившихся желаний, стремлений, планов.

**— Не гордыня ли вас одолевает?**

— Наверное, есть и этот грех. Но будем все-таки считать, что я не на исповеди, а всего лишь на встрече с читателями газеты.

**— Кстати, насчет читателей... Не обидно ли вам, что они в последнее время знают вас в основном как публициста. Хотя справочники Союза писателей именуют вас критиком, литературоведом, прозаиком. Подзабылись ваши книги о Чехове, Толстом, Фонвизине, декабристах...**

— Что ж, другие времена — другие песни... Хотя не все и подзабыли. Кому надо — тот помнит, встречаю читателей, не забывших упомянутые вами книги. Да и в школах и на журфаке БГУ их используют, когда дело доходит до изучения связей русской литературы с Беларусью или истории русской журналистики конца XIX-начала XX веков. Что до публицистики, то здесь я не вижу особого противоречия в своей биографии, ибо и литературно-критические и историко-литературные работы мои были по-своему публицистичны, при всей их, скажем так, филологической обставленности. Другое дело, что как и многие другие литераторы, я еще в перестроечные годы ринулся непосредственно в публицистику, потому что накипело, хотелось высказаться, наконец, верилось в добрые перемены и необходимость личного в них участия...

**— Да, помнится газета "Европейское время"... И что теперь? Разочарованы?**

— Знаете, для человека, годами просидевшего в архивах, собственными руками перебравшего сотни документов, относящихся и к восемнадцатому, и к девятнадцатому, и к началу двадцатого столетий, вроде бы удивляться историческим поворотам не пристало. Но одно дело — изучение истории. И совсем другое — попытка собственного в ней участия. В последнем случае зрение как бы замыливается, ориентиры размываются, события опрокидывают их... Как сказал поэт, "лицом к лицу лица не увидать..."

**— Вы о каких, собственно, ориентирах говорите?**

— О тех, что помогают понять историческую перспективу, уловить подлинный ход развития событий. Впрочем, новейшая история только подтверждает известный тезис о непредсказуемости истории. Даже в конце 80-х годов, когда все тряслось, трудно было поверить в развал Советского Союза.

**— Вам жаль, что Советский Союз развалился?**

— Если говорить о государстве, в котором мы жили, с его партийно-идеологическим засильем, с всевластием КГБ, с его ежедневной ложью, то чего ж тут жалеть? А вот людей, сограждан своих и, может быть, самого себя — жаль... Точнее, жаль тех надежд, что не сбылись и, может быть, никогда не сбудутся. Да, мы были по-своему наивны, когда считали, что достаточно провести настоящие выборы, ликвидировать монополию КПСС, ввести рыночные отношения, содействовать приходу к власти хороших, порядочных людей — и вот наступит царство добра, справедливости и демократии... А оно вон как обернулось!

**— У нас, в Беларуси, спору нет, дела плохи. Но все-таки в России, при всех пороках государственной системы, демократические изменения очевидны...**

— Да бросьте! Какая там демократия? Там правит бал все та же партийно-советская номенклатура. И Ельцин был ее орудием, и Путин типичное ее порождение. Ну проскочили во власть кой-какие личности со стороны. Но сейчас система выстраивается четко — никаких случайностей. И у нас, в Беларуси, у властного кормила стоит прежняя номенклатура. Ну потеснилась она, пропустив на самый верх амбициозного директора совхоза. Полагали, что он будет выражать ее волю, а он взнуздал номенклатурную вертикаль. Теперь она стонет, шеей ворочает — неудобно ей... Да куда денешься! Конечно, в России соблюдается кой-какой демократический марафет, в то время как у нас и без этого декора обходятся.

**— Может быть, президентские выборы изменят ситуацию?**

— Конечно, у нас многое зависит от личности, находящейся на самом верху. Будет хорошая личность — возможно, пойдут хорошие общественные процессы. Плохая личность — другие процессы. И в этом очевидное выражение нашей вековой рабской психологии. Мы никак не можем добиться, чтобы не мы зависели от этой правящей личности, а она — от нас. Поэтому маятник и ходит между добрым и плохим царем. Другого нам как бы не дано...

**— Понятно, нужны соответствующие законы...**

— Хорошие законы — это, конечно, замечательно. Но, как известно, и сталинская конституция была одной из самых демократичных. Чтобы хорошие законы работали, нужен другой состав крови у населения, другое сознание.

**— Но мы не можем поменять народ. Белорусы таковы, каковы они есть. И русские, кстати...**

— Я об этом и толкую. Вот вы говорите — выборы могут что-то изменить... Но ведь выбирать — это что-то защищать, а что-то отвергать, правильно? Скажете, ну вот мы и отвергнем авторитаризм, унижение наших национальных ценностей, а защитим на выборах своими голосами демократию и уважение тех же национальных ценностей. Но это все только слова — демократия и прочее. На Западе, когда человек голосует, он защищает не демократию вообще, а свою конкретную ферму, свой дом, свою работу, свою зарплату, свой счет в банке и т.д. Собственность в самом ее различном выражении определяет настроения избирателя. У нас нет этой собственности у людей, а следовательно, нет и традиции ее защиты.

**— Но нельзя же только констатировать — у нас того нет, этого, нужно что-то делать, чтобы и собственность появилась и соответствующая традиция ее защиты! Поэтому, вероятно, в таких условиях особенно важна роль интеллигенции, умеющей объяснить людям что к чему. А между тем белорусской интеллигенции — если не считать буквально десятка человек — и не видно и не слышно, она как будто вымерла.**

— А что, интеллигенция — не часть того же населения? Она такова, каково в целом общество. Хотя изменения у нас в общественном сознании происходят, но они не так значительны, как хотелось бы. Поэтому мы имеем то, что имеем: есть очень небольшая политически активная часть населения и есть остальная страна, усевшаяся вокруг сцены, где единицы ведут борьбу с авторитарной системой. Впрочем, не забудем о столетиями прививавшемся нам страхе перед властью...

**— Старый вопрос "Что делать?" сохраняет свою актуальность...**

— Знаете, часто цитируют слова Чехова из одного его письма: "Что должен теперь делать русский человек?" Вот мой ответ: желать. Ему нужны прежде всего желания, темперамент. Надоело кисляйство". Под "русским человеком" писатель, безусловно, подразумевал жителя Российской империи. Иногда я думаю о том, что эти слова сегодня вполне могут быть адресованы и современному белорусу. Но я помню и другие слова Чехова: "В прошлом году голод, теперь страх. Жизнь берет много от народа, но что она ему дает? Говорят: борись! Но стоит ли игра свеч?" Не хотел бы, чтобы эта чеховская сентенция воспринималась как расхолаживающая накануне президентских выборов. Проблема в том, кто и как сумеет убедить людей, что игра именно стоит свеч.

**— Говорят, что если Лукашенко сохранит власть, многие энергичные, предприимчивые люди уедут... Кстати, а почему Вы не эмигрировали?**

— Насчет многих сомневаюсь... Запад сегодня жестко фильтрует восточную эмиграцию, и этот процесс будет усиливаться. Что касается меня, то я немало раздумывал над этой проблемой. Во время зарубежных поездок были, разумеется, встречи с эмигрантами. У всех складывается по-разному — в зависимости от возраста, профессии, умения приспособиться, наконец, везения... И для молодых — это тяжелейшее испытание. А уж для людей в более серьезном возрасте эмиграция — это всегда трагедия, хотя и прикрываемая часто и неплохой квартирой, и пособием, и добротным медицинским обслуживанием. Но эта жизнь на пособии достаточно унизительна. Хотя понимаю чувства наших людей, живущих на родине на жалкую зарплату или пенсию. В то же время не могу забыть, как один литератор из Минска, живущий в Германии, признался мне, что если бы раза два в году не мог приезжать на Беларусь, то повесился бы. Дело, конечно, не только в родных березках... Это долгий разговор...

**— Тем не менее Вы уже несколько лет как живете и работаете в Польше...**

— Именно — живу и работаю. Но я не эмигрировал. А работать сегодня можно, слава Богу, где угодно. С Польшей я связан более двадцати лет, там выходили в переводе мои книги, есть давние связи с кафедрами славистики и русистики ряда тамошних университетов, как и возможность публиковаться в польской периодике. Полагаю, что и белорусский читатель кое-что полезное узнает для себя из моих польских публикаций и в "Народной воле", и в других негосударственных изданиях. Правда о том, как сегодня живет Польша, на мой взгляд, чрезвычайно важна для белорусского читателя. Страна проходит сложнейший период трансформации, наблюдать за которой следует еще и потому, что после установления в Беларуси демократических порядков — будем надеяться, что это все-таки произойдет, — мы сможем что-то полезное взять из польского опыта, а что-то отвергнуть, учесть их ошибки. Да и вообще интересно наблюдать за сегодняшней Польшей, с которой у нас немало общего в историческом плане.

**— Ну и как живет сегодняшняя Польша? Впрочем, понимаю, что вопрос глобальный...**

— У поляков куча весьма серьезных проблем — политических, социальных, экономических. Страну сотрясают коррупционные скандалы. Пресса пишет о том, что народ отворачивается от власти и политики, ассоциируя их с преследованием политическими деятелями личных интересов и все той же коррупцией. Намеченные на 23 сентября парламентские выборы, по всем расчетам, приведут к власти левых. И тем не менее, как говорит один мой знакомый, я бы сменял белорусские проблемы на польские. Потому что очевидна тяга польского общества к достижению демократической устойчивости, к поиску основ доверия между властью и обществом. Потому что там невозможны похищения и убийства оппозиционных политиков, разгоны мирных демонстраций и пикетов, наконец, тот произвол, что творится в наших судах. Ну и, конечно, как не позавидовать полякам, говорящим на своем языке, помнящим о своих национальных ценностях, о своей истории и культуре... А уж уровень жизни, при всех проблемах, там намного выше нашего.

**— Давайте от проблем глобальных вернемся к личным, что ли... То, что Вас не любит власть, — это факт известный. Но не менее известно, что Вас, скажем так, не очень жалуют и в либеральной, и в национальной среде... Ну не все, конечно...**

— А я не конфета, чтобы всем нравиться. И принцип у меня железный — никому ничего не доказывать, ни перед кем не оправдываться. И вообще этот разговор — любит-не любит — что за тема? А что до власти, то она и должна не любить нашего брата журналиста, потому что мы у нее бельмо в глазу. И так должно быть.

**— А как сегодня, по-вашему, следует писать, чтобы воздействовать на наше общество?**

— Писать нужно так, чтобы гул стоял, чтобы в ушах стреляло и в глазах темнело. Иначе наш народ не проймешь. Он крепкое слово в основном уважает.

**— Не призываете ли вы к ненормативной лексике?**

— Я призываю к тому, чтобы журналистика была журналистикой, а не тошнотворным сюсюканьем с читателем или игрой карточного шулера, манерно рассуждающего о роли "прикупа" в большой политике.

**— Вы считаете, что у нашей негосударственной прессы невысокий профессиональный уровень?**

— Когда десять лет назад на нас свалилась независимость, белорусы показали, что у нас есть потенциал. Стала вырабатываться и новая профессиональная журналистика европейского типа. Но разлагающее влияние лукашенковщины, задержавшейся здесь на такой долгий срок, не проходит даром для всех сфер жизни. Оно коснулось и оппозиционной среды и негосударственной прессы. Лукашенковщина как бы примеряет нас всех на себя, устанавливает свой масштаб. Бескультурье и невежество, авторитаризм, плывущие сверху, задают общий тон, снижают планку, в том числе в такой сфере, как журналистика. Нет общественного развития, нет новых профессионально поставленных изданий, нет журналистского роста... В этих условиях происходит окостенение и снижение уровня и у заслуженных "монстров" независимой прессы. Не с кем соревноваться, нет борьбы за читателя... Хотя не могу не отдать должное стойкости редакторов "Нашай Нівы" и журнала "Arche", инициативе Игоря Герменчука, предпринявшего в нынешних жутких во всех смыслах условиях издание журнала "Кур'ер".

**— Последний личный вопрос. Оглядываясь назад, вы о чем-нибудь сожалеете? Может быть, что-то изменили, если бы заново удалось пройти тот же путь?**

— Что изменил бы? Пожалуй, был бы внимательнее к родителям в молодые годы, вообще к близким людям... А так ничего не менял бы. Это моя жизнь. Ни к кому не имею претензий по поводу всех своих проблем. Ибо знаю: за все в жизни нужно платить. И каждый должен это делать сам. Кажется, французы говорят: жить — значит платить.

**Антон КОРЗУН.**

ЕСТЬ ИДЕЯ!

# Как заработать хорошую пенсию?

Существующая система социальной защиты населения нерациональна и несправедлива. Для обоснования размеров пенсий и пособий разработано и принято много законов, которые вызывают также и много вопросов и возражений у граждан, которые честно и добросовестно проработали 40—50 лет, а получают пенсии, не соответствующие их вкладу в производство.

Несовершенство существующей системы социальной защиты населения состоит и в увольнении работающих граждан на пенсию. При этом не учитывается, что человек с возрастом накапливает знания, практический опыт и повышает свою квалификацию до такого уровня, которым не обладают молодые специалисты. Надуманная установка пенсионного возраста позволяет многим руководителям злоупотреблять своим служебным положением и увольнять на пенсию по возрасту опытных, высококвалифицированных, принципиальных и честных людей, способных и дальше успешно выполнять свою работу, но ставших неугодными.

Несовершенство существующей системы пенсионного обеспечения состоит и в полной зависимости пенсий от заработной платы работающих. Получают заработную плату работающие — получают и пенсионеры. Не получают заработную плату работающие — нечем выплачивать и пенсии инвалидам и пенсионерам по возрасту. Зависимость неразумная и опасная для инвалидов и пенсионеров.

Мы считаем, давно назрела необходимость заменить существующую систему пенсионного обеспечения населения новой. Основной принцип ее заключается в накоплении денежных средств каждым работающим человеком за счет ежемесячных отчислений определенной суммы в течение всего периода его трудовой деятельности на его личный счет, находящийся во вновь созданном Накопительном денежном страховом фонде трудящихся при Совете министров Республики Беларусь.

Накопительный денежный страховой фонд трудящихся должен быть создан при Совете министров Республики Беларусь. Это обосновывается тем, что в перспективе в нем будут накапливаться, постоянно храниться и предоставляться в кредит миллиардные суммы (в пересчете на доллары США) денежных средств работающих граждан. Эти крупные суммы денежных средств должны находиться в работе, а поэтому они должны оперативно, высокоэффективно и надежно предоставляться в кредит, под залог, рентабельным предприятиям. Одновременно должен быть установлен строгий государственный и народный контроль за хранением, эффективным предоставлением в кредит этих больших народных денежных средств.

Произведенные нами расчеты показывают, что если положить в банк на свой счет 100 долларов США на длительное хранение только под 10 процентов годовых, начисляемых банком за их хранение и предоставление в кредит, то сумма вклада возрастет через 10 лет до 259 долларов, через 40 лет до 4524, а через 50 лет до 11.735 долларов.

Если работающий человек будет перечислять ежегодно по 100 долларов на свой счет в банк под 10 процентов годовых, то за 40 лет хранения и предоставления в кредит хранящихся денег сумма возрастет до 48.670, а за 50 лет до 128.000 долларов США. Если эти деньги будут и дальше храниться в банке на личном счету в Накопительном страховом фонде, то годовой прирост составит 14.080 долларов США. Это даст возможность человеку, проработавшему более 50 лет, использовать годовой прирост и ежемесячно расходовать по 1173 доллара. Фактически это будет его стабильная на всю оставшуюся жизнь ежемесячная пенсия, им заработанная, накопленная и им же сохраненная в течение всего периода его трудовой деятельности на личном счету в фонде или в банке.

Если в Республике Беларусь в течение 2001 года будут приняты законы о создании и порядке работы Накопительного денежного страхового фонда трудящихся, это окажет большое положительное влияние на обогащение всех трудящихся и на укрепление экономики страны в целом.

Приведенные данные свидетельствуют о высокой экономической эффективности создания и рациональной работы Накопительного денежного страхового фонда трудящихся Республики Беларусь, как для каждого работающего гражданина страны, так и для экономики государства в целом.

Однако для создания вышеуказанного Накопительного денежного страхового фонда трудящихся нужна правовая база — законы Республики Беларусь о переходе от системы пенсионного обеспечения граждан к системе накопления денежных средств каждым работающим гражданином за счет обязательных отчислений определенной суммы от его фонда заработной платы в течение всей его трудовой деятельности на его личный счет, находящийся во вновь созданном Накопительном денежном страховом фонде трудящихся Республики Беларусь.

Наши предложения направлены руководству страны, в соответствующие ведомства. Однако положительное решение пока не принято.

**Анатолий СЫРОМЯТНИКОВ,
кандидат экономических наук;
Николай СЫРОМЯТНИКОВ,
инженер-конструктор.**

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

## "Наверна, вучыцель..."

Кіруючыся ў нядзелю раніцой на гарадскі рынак, даў сабе зарок: калі сустрэну чалавека, які будзе са мною ўзаемна размаўляць па-беларуску, дам яму сто рублёў "ганарару"... Спецыяльна адклаў чатыры соценныя купюры ў левую кішэньку — каб спраўна было даставаць. Крочу па "жывым" людскім калідоры, абапал якога — у два рады мо з паўсотні мужчын і жанчын. Ля ног кожнага па вядру-два дароў лесу і агароду. Пакупнікі больш гарадскія, з іх вуснаў роднай мовы не пачуеш. А прадаўцы — пераважна вяскоўцы. Прыслухоўваюся:

— Купете земляники, трыста рублей стакан, — прапаноўвае бабуля з худым тварам.

— Адкуль жа будзеце, з якой вёскі?

— З Волашава, насабирала вот землянички за сялом, в бярэзничку.

— А ці не ўспомніце, шаноўная, як гэту ягаду называла ваша маці?

— Разве я знаю, усе гаварат "земляника", то и я.

— Суніца ёй назва была і ёсць, — заўважаю я і іду далей.

— Купете агурцы, учара с градки, пятьсот рублей кило.

— Можа, лепей было б сказаць "гуркі"? Памятаеце песню на гэты конт: "Пасею гурочки ранняю вясною, сама буду паліваці..."

Жанчына ўсміхаецца, разводзіць рукамі, маўляў, забылася. Купляю ў яе кілаграм пупырчатых гурочкаў. І чую наўздагон: "Наверна, вучыцель".

Мой прыхаваны "ганарар" застаецца ў кішэні некранутым. За гадзіну хады між доўгіх гандлёвых сталоў беларускай мовы так і не пачуў. Дарэмна было чакаць хоць двух-трох родных слоў ад бойкіх дзяўчат і жанчын, што гандлююць прывазным таварам. Размаўляюць яны паміж сабою незразумела як, густа перасыпаюць словы крутымі мацюкамі...

Дома разгарнуў томік першай беларускай паэткі Цёткі, чытаю: "Хто адрокся мовы бацькоў сваіх, хто ўздзеў чужую апратку — той адышоў ад народу далёка-далёка. Ён чужы ў роднай вёсцы, у сваёй сям'і". Напісана ў 1912 годзе, сэнс сказанага гучыць і сёння прароча і трывожна.

## Забаўляліся піўком дзяўчынкі...

Сярод малалюднага завулка, непадалёку ад магазіна-універсама, тры даўганогія дзяўчынкі гадоў па 15—16 гучна размаўлялі і цягнулі з горлачка бутэлек піва "Слуцкае". У гэты момант трое хлапцоў у камуфляжы, з дубінкамі на рамянях, прайшлі міма і накіраваліся ў адзін з дамоў паблізу. На дзяўчынак і вокам не павялі. Вось каб у іх руках было па бутэльцы "Сталічнай", магчыма, ахоўнікі парадку і падышлі б да іх. А мо каб нехта раптам крыкнуў "Жыве Беларусь!"... Тут быў бы поўны аўрал...

У нас па законе продаж спіртных напояў дазваляецца маладым людзям з 18-гадовага ўзросту. На справе амаль ніхто з прадаўцоў не звяртаецца да падлеткаў з просьбай паказаць дакумент, які пацвярджаў бы іх узроставы "цэнз". У ЗША, дарэчы, ён вышэйшы — 21 год. І калі б там прадавец парушыў закон і адпусціў бы хоць піва такім вось падлеткам, гаспадар неадкладна звольніў бы яго.

Нядаўна ў сродках масавай інфармацыі паведамлялася, як непаўналетняя дачка прэзідэнта Буша-малодшага была заўважана пры распіцці піва, якое лічыцца ў ЗША слабым алкагольным напоем. Суд аштрафаваў яе на 51 долар, а яшчэ прыгаварыў да чатырох дзён прымусовых работ па месцы жыхарства. Бацька-прэзідэнт не стаў "ціснуць" на суд — закон вышэй за ўсё!

Дык гэта — там, у "праклятых буржуяў"...

## "Сланечнікавы" электарат разбушаваўся...

Кожную раніцу купка бабуль з загарэлымі да чарнаты тварамі займаюць месцы ў цэнтры горада, узбоч тратуару. Садзяцца на прынесеныя з дому скрынкі, зэдлікі і гандлююць сушаным сланечнікам. Поўз іх за дзень праносіцца не адна тысяча аўтамашын — вуліца ж галоўная, імя Леніна, — але шум і гара выхлапных газаў бабуль не палохае, галоўнае — хоць крыху падзарабіць да жабрачай пенсіі.

І вось паблізу з'явілася настаўніца з вёскі Вежы, член ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за аднаго з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкі пост ад шырокай грамадскасці, паставіла на століку ягоны партрэт. І тут "сланечніцы" ўскіпелі. З іх вуснаў у адрас магчымага кандыдата, якога яны амаль што не ведалі, як і самой той настаўніцы, пасыпаліся абразы, лаянка. Адна з бабуль вырвала ў жанчыны і параскідала падпісныя лісты, другая рвала з рук сумку — праверыць, колькі "заплацілі даляраў" за гэту грамадскую работу.

Прахожыя моўчкі пазіралі за агіднай сцэнай — і крочылі кожны сваёй дарогай, быццам нічога не адбываецца... Засмучаная настаўніца патэлефанавала ў міліцыю, ёй паабяцалі прыслаць нарад. Аднак ніхто да месца здарэння так і не прыехаў.

Вось такая ў нас "роўнасць" і "законнасць" падчас перадвыбарчага марафону.

**Мікола КУТНЯВЕЦКІ,
г.Слуцк.**

ДАЙДЖЕСТ

## Гражданин Билл помогает сенатору Хилари добиться успеха

"Как насчет блинчиков к обеду, сенатор?"

Сенатор от штата Нью-Йорк Хилари Клинтон опровергла слухи о проблемах, возникших в ее семейной жизни, заявив, что с тех пор, как ее муж Билл Клинтон сложил с себя полномочия президента США, он стал помогать ей с ее карьерой.

"Билл — это просто фантастика! О политике он знает чуть-чуть больше, чем все, кого я знаю", — сообщила Хилари. "Я всегда старалась помогать ему и теперь, когда у него появилось свободное время, он прилагает огромные усилия, стараясь помочь мне добиться успеха. Несколько дней назад он просмотрел текст речи, которую я должна была произнести на следующее утро, и внес в него ряд ценных поправок".

## Треть мужского населения Китая умрет от курения

Одна треть китайских мужчин умрет в ближайшие десятилетия от болезней, связанных с курением. Такие выводы содержатся в докладе, опубликованном исследователями Гонконгского университета. В 1998 году в Гонконге среди мужчин в возрасте от 35 до 69 лет смертность от болезней, связанных с курением, составила 33%. При этом пик потребления табака в Гонконге пришелся на 20 лет раньше, чем в Китае. В настоящее время курят две трети китайских мужчин. По существующей статистике, половина из них, то есть около трети мужского населения, преждевременно умрет от болезней, вызванных курением.

**"Рейтер".**

## В Германии на туалетной бумаге печатают стихи Гейне

Немецкая компания-производитель туалетной бумаги решила печатать на рулонах произведения классиков. Исследования рынка показали, что в среднем каждый житель Германии проводит в туалете 15—20 минут в день. И это время не должно пропасть даром. В качестве начинания решено выпустить туалетную бумагу со стихами классика германской поэзии Генриха Гейне.

В компании понимают, что объемная книга не уместится на рулоне туалетной бумаги, поэтому планируется продавать рулоны наборами, соответствующими законченному произведению. Компания планирует представить свою продукцию на Франкфуртской книжной ярмарке и расчитывает, что "литературная" туалетная бумага будет продаваться в книжных магазинах.

**Ananova.**

## Североатлантический альянс решил обогатить эстонский язык

На днях в Таллинне посол Канады в Латвии, Литве и Эстонии Петер Маккеллар передаст главе оборонного ведомства Эстонии Юри Луйку словарь терминологии НАТО на эстонском языке. Как сообщили в минобороны Эстонии, сборник терминов в письменном и электронном виде содержит блок натовских документов со своей терминологией и определениями. Главная цель этого сборника — стандартизировать военную терминологию, которая используется в государствах Североатлантического альянса. В торжественной передаче Эстонии словаря НАТО будет участвовать командующий Силами обороны Эстонии, контр-адмирал Тармо Кыутс.

**РИА "Новости".**

## Наркоман из Техаса устроил стриптиз во время международного авиарейса

На борту самолета MD-11 авиакомпании China Eastern Airlines, выполнявшего рейс №584 по маршруту Пекин — Лос-Анджелес, имело место чрезвычайное происшествие, вынудившее экипаж самолета принять решение об экстренной посадке в аэропорту Анкориджа (Аляска). Как сообщают американские СМИ, 36-летний пассажир этого самолета в приступе так называемой "воздушной ярости" стал угрожать пассажирам и экипажу самолета, затем разделся до нижнего белья и попытался открыть один из люков самолета.

В Анкоридже буйный пассажир был снят с самолета. Экспертиза показала, что пассажир незадолго до полета употреблял какие-то наркотические вещества. Его имя не сообщается, известно лишь, что он житель Техаса.

**Anchorage Daily News.**

КЛУБ ФОТАВАНДРОЎНІКАЎ

# "Аш не супратаў. Калба русішкай!"

"Я не разумею. Гаварыце паруску", — гэтую фразу на літоўскай мове, вынесеную ў загаловак, вы можаце смела развучваць, калі збіраецеся наведаць нашу паўночную краіну-суседку. Існуе амаль 100 працэнтаў верагоднасці таго, што любы жыхар Літвы звернецца да Вас спачатку менавіта на сваёй роднай мове. Акрамя таго, у Літве не засталося ніводнага надпісу на рускай мове на гарадскіх праспектах і роўных загарадных хайвеях — усе на літоўскай і англійскай. Пахвальная любоў да сваёй культуры і сваёй мовы!

Як вядома, Літва дзесяць гадоў таму вызвалілася ад савецкага панавання — зараз краіну не пазнаць: добрыя гатэлі, ветлівыя твары на вуліцах Вільнюса, запоўненыя якаснымі таварамі супермаркеты, шматлікія новыя (а не секэнд-хэнд) замежныя аўто.

Чысцюткія вуліцы (на здымку), прыгожая прырода, спакуслівыя пахі з прыватных рэстаранаў, далікатныя паліцыянты — гэта ўсё сучасная, постсавецкая Літва.

А калі Вы яшчэ ўбачыце гэтыя шыкоўныя ружы (на здымку) ля ўваходу ў адзін з утульных гатэляў паблізу Клайпеды, Вы зразумееце, нарэшце, што знаходзіцеся ў Еўропе.

**Дзівіўся з фотаапаратам Літве Алесь СІЛІЧ.**

АКЦИЯ

# В кольце неравнодушных — резиденция Лукашенко

**22 августа в 17.00 ты можешь лежать на диване — ведь это не твоего мужа похитил "эскадрон смерти".**
**22 августа в 17.00 ты можешь уехать на дачу — ведь это не твой отец скоропостижно умер при загадочных обстоятельствах.**
**22 августа в 17.00 ты можешь пить пиво с друзьями — ведь это не твоего сына бросили за решётку потому, что он не хотел стоять на коленях.**

**Но уверены ли вы, что этого не произойдёт с ними завтра или через год?**

Кольцо неравнодушных людей вокруг резиденции Лукашенко, это мероприятие для тех, кто хочет жить в нормальной, цивилизованной стране, где людей за их взгляды не бросают в тюрьму, где претендентов на президентский пост не похищают и не убивают.

Мероприятие не требует специального разрешения властей. Приди и встань рядом с Людмилой Карпенко, Татьяной Климовой, Ольгой Григорьевной Завадской, Светланой Завадской, Ириной Красовской ...

## ГРАФИК ПРОВЕДЕНИЯ "ЦЕПИ НЕРАВНОДУШНЫХ ГОРОДОВ" В РАМКАХ КАМПАНИИ "ХОТИМ ЗНАТЬ ПРАВДУ!":

17 августа, Гомель, универмаг "Гомель" и ул.Советская, с 18.00.
18 августа, Новолукомль, 9.00—10.00, рынок.
22 августа, Минск, 17.00—18.00, вокруг резиденции Лукашенко, К.Маркса,38.
22 августа, Витебск, 19.30—20.00, Привокзальная площадь
22 августа, Ошмяны, 17.00—18.00, площадь Дома Советов.
29 августа, Витебск, 19.30—20.00, Привокзальная площадь

# ХОТИМ ЗНАТЬ ПРАВДУ

Анатолий Майсеня: несчастный случай или спланированная катастрофа?
Геннадий Карпенко: скоропостижная смерть или политическое убийство?
Юрий Захаренко: исчезновение или политический терроризм?
Виктор Гончар: исчезновение или устранение конкурента?
Анатолий Красовский: исчезновение или организованное похищение?
Дмитрий Завадский: исчезновение или организованное похищение?
Андрей Климов: экономическое правонарушение или политическая расправа?
Валерий Щукин: уголовное преступление или политическая расправа?
?

Минск, ул.К.Маркса, 38

# КОЛЬЦО НЕРАВНОДУШНЫХ ЛЮДЕЙ ВОКРУГ РЕЗИДЕНЦИИ ЛУКАШЕНКО

Среда, 22 августа, 17.00 - 18.00

ВСТАНЬ РЯДОМ!

ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ

# Мы вартыя лепшага жыцця

Найгоршыя мае прадчуванні спраўдзіліся. У 1994 годзе не прыслухаўся народ да думкі многіх свядомых беларусаў, якія прадбачылі, што з маладым прэзідэнтам, які нават у саўгасе не змог навесці парадак, наш шлях ляжыць у нікуды, што мы акажамся ў імгле. "Усенародна абраны" нарабіў шмат шкоды. Я не кажу ўжо пра імідж Беларусі на міжнароднай арэне. Самае страшнае, што гэты чалавек не паважае свой народ, яго мову, традыцыі, культуру. Ён забыўся (ці, магчыма, зусім не ведае), хто ёсць народ. А народ — гэта не толькі асноўная працоўная маса насельніцтва, але і сацыяльная супольнасць, якая ўключае ў сябе тыя слаі і класы, якія маюць здольнасць удзельнічаць у вырашэнні агульнанацыянальных пытанняў. Таму зусім не дзіўна, што насельніцтва нашай краіны ён падзяляе на тры катэгорыі: народ, нацыянал-фашысты і адмарозкі.

За сем гадоў няўмелага кіравання мы адкаціліся на шмат часу назад. Гэта, відаць, і ёсць той славуты "рынкавы сацыялізм", калі ты атрымліваеш мізэрны заробак, калі не можаш звесці канцы з канцамі і калі на экране тэлебачання бачыш адзін твар, а па радыё чуеш адзін сіплівы голас — яго, адкормленага і на мае грошы, і вечна пагрозлівага: пакажу, маўляў, хто ў гэтай краіне і татка, і матка.

Бацылы нянавісці кожны дзень прыходзяць у нашы кватэры, разбуральна ўздзейнічаюць на нашу псіхіку і выклікаюць пратэст супраць гнілой дзяржаўнай сістэмы, супраць хлусні і абсурду, якія пануюць і дасягаюць неверагодных памераў у вуснах азаронкаў, новікавых і іншых, хто спрабуе паказаць нам "праўду" і сцвярджае, што толькі адзін — той, што сёння кіруе намі, — здольны палепшыць наш дабрабыт, вывесці краіну з крызісу, умацаваць яе аўтарытэт. Хоць перадвыбарчая агітацыя яшчэ забаронена, для яго — "самай гарманічнай, неардынарнай і харызматычнай" асобы — робіцца выключэнне. І ўжо выцягваюцца на экраны замежныя эмісары тыпу Строева, Жырыноўскага і Мітрафанава, якія спрабуюць папраўляць свечкі ў чужой бажніцы і наперабой расхвальваюць якасці таго, хто на каленях стаіць перад усходняй суседкай, бо больш ні на чыю дапамогу разлічваць не можа: з усімі перасварыўся, бо "разгадаў іх варожыя захопніцкія каланіяльныя планы".

Ці не занадта я агрэсіўная? Ці не зашмат сарказму ў маіх словах? Не, я ўсвядомлена пішу гэта, бо, як ніхто іншы, адчула "справядлівасць" нашай праваахоўнай сістэмы і "добрасумленнасць" у выкананні сваіх абавязкаў чыноўнікамі розных рангаў.

Крыху болей за год назад, на Радаўніцу, 9 траўня, мой сын быў забіты нейкімі падонкамі на вачах сотняў жыхароў Салігорска, якія адпачывалі каля гарадскога фантана, за тое, што заступіўся за дзяўчыну, да якой чапляліся нейкія нелюдзі. Каб схаваць гэты факт, судмедэксперт Анатоль Новік выдаў заключэнне, што юнак памёр ад прыроджанай анеўрызмы сасудаў галаўнога мозгу, хоць той рос вынослівым, здаровым хлопцам і нават тры з паловай гады правучыўся ў Вайсковай акадэміі, прайшоўшы на прадмет здароўя не адну медкамісію розных узроўняў. Наздзекваліся з памяці Сцяпана і "незалежныя" мінскія эксперты, якія рабілі яго эксгумацыю праз тры з невялікім месяцы: "... при жизни страдал врожденным пороком развития сосудов головного мозга". Куды я ні звярталася па гэтым факце — ад мясцовых праваахоўных органаў да рэспубліканскіх, — усюды абапіраюцца на "вынікі" судмедэкспертызы і нават не бяруць у рэзон тое, што трагедыя адбылася на вачах шматлікіх сведкаў і літаральна ўзрушыла ўвесь горад. А на апошні мой зварот да "гаранта" Канстытуцыі падчас яго знаходжання ў Салігорску 12 красавіка бягучага года не маю адказу да гэтага часу. Аказваецца, "надзея і апора беларускага народа", паабяцаўшы, што ўсе звароты будуць на кантролі ў кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі, ніводнага з іх не ўзяў з сабой, кінуўшы ўсё на водкуп мясцовай ды абласной вертыкалі.

Мяркуючы па тых істэрычных пасажах, якія "гарант" выдае ў апошні час, прыходжу да высновы: ім авалодаў страх — страх перад уласным народам за нясправўджаныя абяцанні, страх, што давядзецца несці адказнасць за зніклых людзей, за раскол, унесены ў грамадства, за здзекі з нацыянальных сімвалаў, за грубае, няўмелае ўмяшанне ў асвятленне гістарычных працэсаў, спробы перапісаць гісторыю Беларусі на свой лад. Таму і імкнецца ён любым чынам утрымацца.

Болем праціная сэрца, калі чую з яго вуснаў зняважлівыя выпады на адрас былых яго паплечнікаў Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі, якіх ужо (страшна такое ўявіць), мусіць, няма на гэтым свеце. "Праваслаўны атэіст" з асаблівым цынізмам зневажае іх памяць, не шкадуючы мацярок, жонак і дзяцей гэтых нявінных ахвяраў. А як стараюцца дагадзіць "усемагутнаму гаспадару" яго верныя служкі Юра Казіятка і Саша Зімоўскі, не задумваючыся над тым, як яны будуць глядзець у вочы беларускаму народу, сваім родным і блізкім, калі памяняецца ўлада. Няўжо "сабачы" хлеб даражэй за сумленне?

Наш народ павінен усвядоміць адну спрадвечную ісціну: прэзідэнты прыходзяць і адыходзяць, а народ з яго каштоўнасцямі застаецца. Менавіта ад нас саміх залежыць наш дабрабыт, будучыня нашых нашчадкаў. Патрэбна выціснуць з сябе рабоў і з уласцівай беларусам годнасцю сказаць: "Досыць! Мы вартыя лепшага жыцця і лепшага кіраўніка дзяржавы". І шлях да лепшай долі для нас і нашых дзяцей адзін: стаць пад сцяг аб'яднанай апазіцыі і падтрымаць яе. Вось тады наша дзяржава, якая знаходзіцца ў самым цэнтры Еўропы, зможа годна і прыстойна жыць і дакажа, як ў гады сярэдневяковага Рэнесансу, што яе сыны і дочкі могуць з гонарам насіць гордае імя — БЕЛАРУСЫ.

У 1864 годзе пісьменнік Фёдар Дастаеўскі, які мае беларускія карані, пісаў: "Усякая здаровая і земская сіла верыць у сябе і ў сваю праўду. І гэта ёсць самая першая прыкмета здароўя народнага. Гэта народная вера ў сябе і ва ўласныя сілы — зусім не застой, а, наадварот, зарука жыццёвасці і энергіі жыцця і ні ў якім разе не выключае прагрэсу і вялікага поспеху. Без гэтай веры ў сябе не выстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не ўратаваў бы сябе ніколі".

Дык верма ж у свае сілы — і мы выстаім: наш выбар выпадзе на разумнага, інтэлігентнага чалавека, які не будзе шукаць вакол сябе ворагаў, а пачне наладжваць узаемаадносіны партнёрства з усімі далёкімі і блізкімі суседзямі, а таксама зоймецца праблемамі беларускай дыяспары, якая захавала нашу мову і традыцыі, якая шануе гісторыю свайго краю і вартая таго, каб родная краіна ацаніла сваіх суайчыннікаў у замежжы так, як яны таго заслугоўваюць.

**Марыя МАЦЮКЕВІЧ, настаўніца беларускай мовы.**

# Выбірай сонейка!

За тыя некалькі тыдняў, якія засталіся да 9 верасня, вуліцы беларускіх гарадоў і мястэчкаў будуць літаральна перапоўненыя рознага кшталту передвыбарчай агітацыяй: улёткамі, налепкамі, плакатамі. Але ў моры падобнай прадукцыі прыцягваюць увагу налепкі і плакаты, якія пазначаны адмысловым сімвалам — сонейкам, пад якім стаіць надпіс "выбірай!" і дата 9 верасня — дзень, у які кожны паўналетні грамадзянін здольны змяніць будучыню сваёй краіны ўласнымі рукамі.

Але чаму сімвалам кампаніі выбрана менавіта сонейка? Як расказалі нам у штабе мабілізацыйнай кампаніі, які курыруе дзейнасць валанцёраў больш як 200 недзяржаўных арганізацый, сонейка для беларусаў — гэта спрадвечны сімвал надзеі, радасці і шчасця, якраз таго, чаго так не хапае зараз. Апрача лозунга "Выбірай!", кампанія праходзіць пад дэвізамі "Хочам! Можам! Пераможам!", "Выбірай Беларусь!", "Выбірай лепшае!", "Выбірай сваё!" і г.д. Прытым дэвізы звернуты не толькі да дарослых, але і да дзяцей, якія, як ні дзіўна гучыць, могуць паўздзейнічаць на бацькоў (нездарма герой-немаўля аднаго з плакатаў звяртаецца да бацькоў: "Выберы маю будучыню. Я яшчэ не магу"). Уся кампанія накіраваная на тое, каб разбіць атмасферу страху ў грамадстве, стварыць атмасферу аптымізму перад выбарамі і, што вельмі важна, агітаваць выбаршчыкаў галасаваць толькі ў нядзелю 9 верасня.

ВЫБІРАЙ 09.09.2001

ВЫБІРАЙ СВАЮ БУДУЧЫНЮ, БЕЛАРУСЬ

На гэтым тыдні з'явілася серыя мабілізацыйных плакатаў са слоганам "Выбірай сваю будучыню, Беларусь!". Прыгожыя беларускія краявіды, дзеці, якія не ведаюць ніякіх турбот... Ці не занадта ідэалістычныя карцінкі на іх намаляваныя, запыталіся мы ў аднаго з валанцёраў мабілізацыйнай кампаніі Ірыны Віданавай.

— Я так не думаю. Абсалютна ўсе бацькі бачаць будучыню сваіх дзяцей ідэалістычнай. Часам гэта не спраўджваецца, але, пагадзіцеся, шмат што залежыць ад нас, дарослых. Занадта ідэалістычна? Але ці не занадта шмат бруду і рэальнасці вакол нас? Азірнуўшыся, без праблем можна ўявіць, якой будзе будучыня дзіцяці ў ТАКОЙ краіне. Наша задача — зрабіць 9 верасня ўсё, каб пасля выбараў, жывучы ў НАРМАЛЬНАЙ Беларусі, падобную ідэалістычную карцінку сустракаць не на плакатах, а на рэальных фотаздымках у нашых сямейных альбомах.

Інтрыга вакол плакатаў накручваецца яшчэ і таму, што іх аўтарства застаецца невядомым. У штабе кампаніі "Выбірай!" нам адмовіліся паведаміць імя аўтара. Сярод варыянтаў гучаць прозвішчы досыць знаных мастакоў, але нават мастацтвазнаўцы не могуць раскрыць інкогніта. Убачыце плакат, паспрабуйце разгадаць самі.

**Сяргей БЯЛЕВІЧ.**

